# ВЯЛІКАЕ СВЯТА

16 гадоў таму назад нашай краінай кіравалі капіталісты, памешчыкі, кулакі. Ім належалі фабрыкі, заводы, банкі, зямля. Яны бязлітасна эксплаатавалі і грабілі рабочых, грабілі працоўных сялян. А для абароны капіталістаў, памешчыкаў, кулакоў зверху сядзеў цар з міністрамі, папамі, генераламі. Рабочыя, беднякі і серадніякі-сяляне працавалі на гэтых крывапійцаў. Працавалі з году-ў-год, усё жыццё. Праца была рабская, катаржная.

Доўгі час, цэлыя стагоддзі працоўныя думалі над тым, якбы вызваліцца ад гэтых драпежнікаў, каб стаць вольнымі.

І вось тав. Ленін, вялікі правадыр працоўных усяго свету, стварыў магутную рабочую комуністычную партыю. Тав. Ленін і яго партыя павялі рабочых, беднякоў і серадняноў-сялян на бітву супроць ворагаў. І ў кастрычніку 1917 г. працоўныя, апд кіраўніцтвам партыі і сваіх правадыроў Леніна і Сталіна перамаглі. Адбылася вялікая Кастрычніцкая рэволюцыя.




Тав. Ленін гаворыць прамову ў час рэволюцыі.

Рэволюцыя прынесла рабочым, працоўным сялянам волю. Усе багацці краіны—фабрыкі, заводы, зямля і інш.—дасталіся працоўным, якія перамаглі сваіх ворагаў і на ўсіх франтох грамадзянскай вайны.

І вось ужо 16 гадоў рабочыя і працоўныя сяляне пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі будуюць новае жыццё: будуюць калгасы, новыя фабрыкі і заводы, стварылі магутную Чырвоную армію для абароны свае краіны.

А гэтае новае лепшае жыццё ў поўным сваім росквіце дастанецца перш за ўсё цалкам дзецям. Вось чаму нашы дзеці павінны быць добра падрыхтаваны, каб умець кіраваць заводамі, калгасамі, умець добра працаваць. І наша галоўная задача, галоўны завет Леніна дзецям—вучыцца, вучыцца і вучыцца.

Будзем-жа шчыра і ўпарта выконваць гэты ленінскі завет. Будзем рыхтаваць з сябе надзейных барацьбітоў за соцыялізм, за сусветны Кастрычнік.

Няхай жыве рэволюцыя ва ўсім свеце!

# ТАВАРЫШ СТАЛІН








У Закаўказзі, у Грузіі, на беразе рэчкі Куры, ёсць гарадок Горы. Тут у 1879 годзе ў сям'і шаўца Вісарыона Джугашвілі радзіўся сын Іосіф— будучы правадыр комуністычнай партыі, рабочага класа і працоўных усяго свету. Той, каго потым сталі зваць таварыш Сталін.

З восемнаццаці год аддаў ён усяго сябе на справу барацьбы за вызваленне рабочых. Ён стаў рэволюцыянерам. Ён згуртоўваў рабочых у гурткі, якія збіраліся ў потайкі ад паліцыі і фабрыкантаў. Ён растлумачваў, як трэба змагацца супроць цара і фабрыкантаў.

Каб схавацца ад царскай паліцыі, ён жыў пад рознымі імёнамі. То яго называлі „тав. Дэвід“, то „тав. Коба“, то яшчэ як-небудзь.

Шукае паліцыя тав. Дэвіда, а ён у гэты час дзе-небудзь ужо працуе пад імем т. Чыжыкава. Натрапіць паліцыя на след Чыжыкава, а ён ужо выступае перад рабочымі як тав. Коба. Апошняе імя яго было Сталін. Пад гэтым імем ён і стаў вядомым усяму свету.

Здаралася яму не раз трапляць у рукі паліцыі. Ён падоўга сядзеў у турме. Ссылалі яго ў Сібір і ў другія далёкія месцы. Але са ссылкі ён уцякаў і зноў пачынаў працаваць пад новым імем. Так чатыры разы ўдалося яму ўцячы са ссылкі. Многа клопату ён нарабіў царскім жандарам.

Ва ўсёй сваёй рабоце ён быў бліжэйшым памочнікам Леніна.

Памёр Ленін. Комуністычная партыя працягвае яго справу пад кіраўніцтвам т. Сталіна. Пад кіраўніцтвам Сталіна пабудаваны тысячы новых заводаў, сялянства згуртавалася ў калгасы для сумеснай і дружнай работы. Машына-трактарныя станцыі па-новаму цяпер апрацоўваюць палі. Па закліку Сталіна рабочыя і калгаснікі арганізоўваюць ударныя брыгады. Яны стараюцца лепш працаваць, каб больш выпрацаваць усяго, што трэба нам, каб скарэй перабудаваць жыцьцё па-новаму.

Сталін вучыць нас: „у нашых ворагаў праца лічыцца праклящцем, а ў нас **праца—справа гонару, мужнасці і геройства**“.

Сталін заклікае нас:

„Прэч гультаёў, лодыраў, прагульшчыкаў!
Працуйце па-новаму, па-ўдарнаму!“
Няхай жыве комунізм!

# Таварышы

Апавяданне В. Каваля
Малюнкі М. Беляніцкага

## 1. Наша вуліца гудзіць

Федзька, я і Сёмка ідзём у школу. Мы заўсёды ходзім разам, бо мы—таварышы, аднагоднікі. Кожнаму з нас мінуў дванаццаты. Мы вучымся ўжо ў трэцяй групе. Умеем чытаць, пісаць лісты на вайну.

Па абмытай дажджом вуліцы сцелецца з комінаў блакітны дым. Сёння наша вуліца, як разварушаны вулей, гудзіць радаснымі чуткамі. Ходзяць чуткі на цыпачках — пра вайну, пра мір, пра рэволюцыю.

Мы ведаем, што такое вайна! Праз наша сяло кожны дзень бясконца цягнуцца салдацкія фурманкі, а на іх зброя, кулямёты, людзі ў шэрых шынелях. Федзькаў бацька яшчэ ўлетку забіты на вайне, мой бацька недзе ў акопах, а Сёмкаў брат — Саўка Бандарэнка нядаўна вярнуўся з фронту ранены ў руку. Саўка прынёс многа трывожных вестак у наша сяло.

— Слаўны ў цябе, Сёмка, брат,— думаючы пра Саўку, кажа Федзька.— Эх, каб мой бацька быў жы-ы-ў!



— Я вам скажу, хто такі наш Саўка...

А Сёмка, хутаючыся ад ветру ў сваю палатаную куртачку, пад строгім сакрэтам кажа нам:

— Я вам скажу, хто такі наш Саўка... Толькі—ша! Нікому а ні-ні...

Мы клянёмся, што нікому не раскажам.

— Канешне, а ні-ні... Хіба мы не таварышы?

— Наш Саўка — большэвік, — ціха, але з гонарам сказаў Сёмка.—А сярод большэвікоў самы найбольшы—Ленін. Саўка гаварыў, што большэвікі абавязкова прагоняць паноў і ўсякіх буржуяў. Яны ўсю зямлю падзеляць паміж бедных сялян, а памешчыку ды нашаму старасце—фігу пад нос...

— А до-обра будзе! — аж падскочыў Федзька ў дзяцінай радасці і знячэўку спаткнуўся на камень.

Мы ідзем моўчкі, не спяшаючы. У школу нам ісці не вельмі хочацца. „Навука" нам не лёгка даецца. Поп нас мучыць надакучлівымі малітвамі і ставіць на калені. Мы ўсё церпім, бо нас упэўнілі, што „навука—мука".

А вуліца ўсё больш і больш гудзіць каля прызбаў мужчынскімі галасамі. Жанчыны таксама стаяць гуртам каля калодзежа з поў-

ными вёдрамі вады. Часта чуваць словы: „прагналі Керэнскага“, „бальшэвікі“, „Ленін“.

Эге, што-ж гэта такое?

Недалёка ад школы, насустрач нам, бяжыць Саўка Бандарэнка ў шынелі наапашкі, з перавязанаю леваю рукою. Радасна ўсміхаецца нам, махае праваю рукою.

— Рабяткі! Таварышы...

Нас яшчэ ніхто не называў „таварышамі“. Слова „таварыш“ для нас—ласка, прывет.

— Сыпце, рабяткі, у канец сяла ды гукайце ўсіх—і мужчын, і жанчын... на мітынг! Няхай збіраюцца каля школы. Толькі шпарка, як вецер... Ну і справы, рабяткі...

І зноў засмяяўся, а мы, як вецер, як з прывязі кінуліся ў канец сяла. „Дык вось якія бальшэвікі“,—падумаў я.—Мы для цябе, Саўка, усё зробім.

Мы былі ў захапленні ад таго, што Саўка даў нам такое важнае даручэнне.

— На мітынг! Дзядзька Пііп, цётка Домна, дзед Шчур—на мі-і-тынг!.. — захлёбваючыся ад радасці крычалі мы кожнаму сустрэчнаму.

## 2. „Смела, таварышы, у ногу!“

Каля школы ўжо многа-многа сялян. Нават прышоў, апіраючыся на сукаваты кій, сівабароды дзед Шчур.

— Школьнікі, вазьміце сцяг!—скамандаваў Саўка.—За мною...

Федзька і я схапілі за дрэўкі сцяг і панеслі. Уперадзе ішоў Саўка, размахваючы здаровай правай рукою. Поплеч з ім высокі мужчына ў чорнай тужурцы і з рэвальверам на баку. Яго называлі чырвоны камісар. Ён прыехаў з гораду. Ішлі людзі, неяк сам сабою пастроіўшыся ў калону.

Мы ішлі ў канец сяла.

Сёмка, наступаючы на Федзькіны пяткі, усё ўпрошваў:

— Федзька, дай я паднясу сцяг, а то ты змарышся.

— Я не змаруся...

— Ну дай, Федзька! Хоць трошкі паднясу...

Саўка раптам павярнуўся да нас прыжму-



Мы ішлі ў канец сяла



**На выгане мы сталі шчыльным кругам. У сярэдзіну вышлі Саўка і чырвоны камісар.**

раным тварам, узмахнуў на хаду рукою і высока заспяваў:

Сме-ло, товарищи, в ногу...

А ўсе школьнікі і нашы вясковыя хлопцы падхапілі:

Духом окрепнем в борьбе...

Песня ўсё расла і расла ўгору. Той, хто не ведаў слоў, цягнуў адзін матыў. З вокан выглядалі старыя бабулькі і ківалі галовамі, малыя дзеці беглі следам за намі. Ад слоў мужнай песні ў нас загаралася бадзёрасць. Мужчыны ішлі, падняўшы галовы. Дзед Шчур зняў з лысай галавы заячую шапку і, мігаючы старымі вачыма, спяшаўся за калонаю.

## 3. „Няхай жыве таварыш Ленін!“

У канцы сяла, на выгане, мы сталі шчыльным кругам. У сярэдзіну вышлі Саўка і чырвоны камісар. Саўка зняў салдацкую шапку. Вецер пагладзіў яго кучму чорных валос. Саўка крыкнуў:

— Таварышы, мітынг лічу адчыненым. Слова мае чырвоны камісар...

Камісар ступіў два крокі наперад.

— Таварышы! — звонка крыкнуў ён на ўвесь выган, на ўсё поле. Стары свет, урад буржуяў і паноў скінуты... Перамагла жалезная партыя бальшэвікоў. Вялікі правадыр таварыш Ленін кіраваў намі ўвесь час. Мы ішлі праз смерць і агонь...

У глыбокай цішыні нехта глуха, радасна ўздыхнуў. Старыя жанчыны выціралі пальцамі светлыя слязінкі.

— Цяпер уся зямля ў руках сялян, а ўсе заводы і фабрыкі—у рабочых.

— Ура!—крыкнулі мы з Федзькам, а ўслед за намі падхапілі галасы, як подых буры з перакатамі.

— Няхай жыве таварыш Ленін!

— Ура-а-а!

Уверх паляцелі шэрыя салдацкія папахі. Жанчыны ўсьміхаліся. Дзед Шчур, трасучы

сівою галавою, гаварыў глуха, як з дна калодзежа:

— Дажыў... Дажыў на старасці... Гэтакі дзень! Гэтакі дзень, браткі...

Калі мы варочаліся з песнямі назад у школу, Федзька сказаў:

— Вазьмі, Сёмка, паднясі сцяг.

Сёмка з радасцю ўзяўся за дрэўка і горда ўзняў кудлатую русую галаву.

Настаўнік, ступаючы ўперадзе нас і лагодна ўсміхаючыся маршчынкамі немаладога твару, сказаў нам:

— Ну, рабяткі, цяпер у нас школа новая... Старая школа памерла назаўсёды. — Поп таксама не прыдзе больш у школу. Не будзе ён ставіць нас за малітвы на калені.

— Ды мы яго на парог школы не пусцім!— абурана выгукнуў Федзька.

А мужчыны і жанчыны наперабой гаварылі пра сваё.

— Памешчык учора ўначы ўцёк. Такога, брат, лататы задаў, што куляй не дагоніш...

— А цяпер камітэт беднаты ўсю зямлю паміж беднякоў падзеліць. Будзе ў нас зямля, будзе і хлеб...

— Стараста баіцца... Дрыжыць, як асінавы ліст. А раней — ого-о! Шапку скідай перад ім...

— Не-е, брат, мінулася! Дудкі!

— Эха-ха а!—нехта ў грамадзе гучна і радасна ўздыхнуў і засмяяўся.

Мы ішлі і спявалі песню аб тым, што пераможам стары свет і ніколі-ніколі не вернецца мінулае гора, што мы пойдзем абараняць свае советы, самі возмем набоі і да вінтовак прывінцім штыхі.

Прыгравала сонца, пад вокнамі нахілялася кучаравая бяроза. А за сялом ляжалі цяпер ужо нашы прасторныя палі і сенажаці і лес быў у ярка агністым уборы—так дзіўна распісаў яго месяц Кастрычнік.

---

# Наша свята

Ты чуеш, трубы медныя
Склікаюць і гудзяць.
Выходзь, дзятва совецкая,
Кастрычнік святкаваць!

У гэты дзень і музыка,
І весялосць у нас.
І выстаўлены розныя
Забавы напаказ!

І млын, і танкі, трактары...
Узняўся цэпелін.
Як рой гудуць прапелеры
Далёка ад зямлі.

У нас гульня ваенная,
Рыхтуйся, дзетвара!
Ты чуеш, трубы медныя
Звіняць:—пачаць пара!



# Маленькі партызан

Апавяданне Г. Ткачэнка
Малюнкі В. Тіхановіча

## 1. Скарэй, скарэй!

Петрык бег што меў сілы. Шырокая, доўгая матчына капота блыталася ў яго між нагамі. Вялікая бацькава шапка насоўвалася яму на вочы, на нос. Але нішто не магло стрымаць Петрыка.

— Скарэй дабегчы! — была адна думка. Ногі нястомна імчаліся наперад. Рука раз-по-разу адсоўвала шапку на патыліцу, выцірала спацелы лоб, нос.

Бег далей. Бег нібы па вымершых, бязлюдных завулках. Нават сабакі, што спачатку так сумна вылі, некуды зніклі цяпер, пахаваліся.

Начныя цені, такія цёмныя, страшныя, здавалася, беглі за Петрыкам.

Іншы раз спалохана спыняўся. Рука міжвольна шукала чагосці. Бліскучыя вочы намагаліся пранізаць цемень, а вуха пільна, напружана прыслухоўвалася.

Было ціха, аж жудасна.

Ужо замоўклі і шалёныя выбухі. Толькі калі-ні-калі грозна кашляла гармата ды глуха ў адказ стагнала зямля. Зрэдку яшчэ сакатаў кулямёт. Стаміўся горад... Ці можа сілы не стала?

Пасля кожнага гарматнага выбуху на міг спыняўся Петрык. Палахлівае сэрца вось-вось, здавалася, выскачыць з слабенькіх грудзей. Маленькія кулачкі сціскаліся помстаю,

а з бледных вуснаў зрываліся ласкавыя словы: „Мой тата! Мой любы тата! Я бягу“.

Праз момант ён зноў бег далей. Нібы вецер імчаў яго. Прабягаў адну вуліцу, другую.

„От і канец ужо горада“,—радасна ўсміхнуўся Петрык, убачыўшы шырокае, разложыстае поле за горадам.

— Каб скарэй толькі мінуць горад. А там... два крокі... два крокі... і ніхто не дагоніць.

І вочы ўглядаліся наперад, туды, дзе за пушыстымі ўзгоркамі, за мостам, у лесе была маленькая хатка.

## 2. „Ты хто такі?“

Цёмна ў полі. Толькі снег сінее навакол. Узняўся люты вецер, здзіўлена заглянуў у твар начному госцю, засвістаў, прабег па ім. Залез у боты, памацаў мокрыя пальцы ног, пранізаў усё цела.

Насунуў Петрык шапку ніжэй. Засунуў рукі ў рукавы. Стаў змагацца ў полі з ветрам. Але раптам адразу спыніўся. А можа гэта пачулася?..

— Стой! Стой!

Азірнуўся Петрык, з боку бегла проста на яго высокая шэрая постаць. А далей— другая, трэцяя, цэлы рад.

— Варожае войска... Белыя... Уцякаць!

Але позна. Петрык спыніўся.

— Ты хто такі? Чаго маўчыш?—спытала шэрая постаць.

Чалавек падышоў бліжэй і грозна тузануў за рукаў.

Маўчыць Петрык.

І раптам:

— Я заблудзіў, з дарогі збіўся, — заплакаў ён. — Дзядзечка, скажыце, там Ліпцы?— махнуў ён рукою і глянуў так адкрыта, смела ў твар чалавеку.

— Там Ліпцы. А ты чаго ўночы так позна ходзіш?

— Бабуля памерла. Маці хворая, хадзіў да бацькі ў горад. Прыдзе заўтра. Адпусціць поп—казаў.

— А дзе-ж твой бацька?

— У папа Багацкага служыць за стоража. Я хадзіў па яго, а дома маці хворая. Малая Мар'янка плача мусіць.

— Мар'янка, кажаш? Ну, бяжы сабе. Бяжы. Белагвардзеец паверыў Петрыку.

Зварухнуцца не мог Петрык пасля гэтага. Так ногі яго дрыжэлі ад страху, а сэрца ірвалася з грудзей. Няўжо? Няўжо прайшло ўсё? І ён зноў пабег.

— Куды бяжыш? — аклікнуў другі белагвардзеец. — Ты абшукаў яго, як след?— зьвярнуўся ён да таго першага.

— Як след! Што ты знойдзеш у дзіцяці? Ідзі! А бацькі ты не чакай. З горада нам загад далі —не выпускаць нікога. Тут будзе бой з партызанамі. Хоць і страляць няма чым. Людзей мала... Бяжы, бяжы...

## 3. Петрык выканаў даручэнне

І Петрык зноў застаўся адзін у полі.

Нібы вецер, нібы бура імчаўся ён. Не верылася, што ён ужо вольны, ды яшчэ і вестку добрую нёс. „Няма чым страляць... Людзей мала“...—усё яшчэ чуваць быў хрыплы голас у Петрыкавых вушах.

Слізкая дарога, ногі вязнуць. От і масток. Чарнее хатка ў лесе.

— Тук-тук-тук-тук, — у цёмную шыбу азяблым пальцам барабаніць.

— Ды скарэй вы адчыняйце!



Ня можа чакаць Петрык, зноў стукае. Загаманілі ў хаце, голас пачууся:

— Хто такі?

— Паўстанец-бацька, — адказаў Петрык раней умоўленым словам.

Бліснуў агонь. Скрыпнулі дзверы, знік Петрык у хаце. А хвілін праз пяць ён ужо хутка імчаўся на белым кані з дзядзькам праз лес.

Апавядаў дзядзьку Петрык:

— Мы палеглі спаць, а раптам у дзверы хтось: стук-стук! Усхапіўся я. На стале мільгала газніца. Саскочыў з ложка. Адчыніў. Гляджу: бацька. Ён так аброс, што і пазнаць нельга, Гукаю: мама, мама, тата вярнуўся! Усхапілася маці. А тата — хворага ўвёў:— Абмый яго, Кацярына,—кажа. На ложак пасадзіў. І сам прысеў. Вялікая шапка, патранташ, наган пры боку. Стрэльбу ў куток паставіў. Такі бледны-бледны. Так дзіўна глядзіць на мяне. І раптам:

— Петрык, на, занясі!

Дастаў з кішэні паперку: — Схавай, кажа, ды імчы яе дзядзьку Костусю,—гэта да вас, значыць. А мама ў слёзы:

— Уночы? Ты звар'яцеў?..

Страшна стала ўсім выпраўляць мяне ў такую пару. Памаўчалі. А далей тата мацней сказаў:

— Табе ўжо дзесяць—не маленькі. І ведай: не паспееш—усё загіне: і я, і ты, і наша справа. А ты-ж казаў — ненавідзіш паноў. Нас партызанаў у горадзе мала, няма патронаў. На дапамогу чакаем партызанаў з бліжэйшых вёсак. Ідуць яны. Але белыя пачулі ўжо, насустрач ім вышлі, на тым баку маста пярэймуць іх. Імчы скарэй! Бяжы найцямнейшымі завулкамі, каб не сустрэў нікога. Няхай дзядзька Костусь садзіцца конна ды імчыцца насустрач нашым і вядзе іх не праз мост, а кругом сюды да нас, у горад.

— Ці пойдзеш, Петрык? Ці дапаможаш нам? Ці хочаш, каб лепей жылося бедным людзям? — пытаў мяне бацька. Я нічога не адказаў на гэта бацьку, а скаранька апрануў матчыну капоту і пабег.

Расказваў і далей Петрык, але вецер злосны падхапіў яго словы і панёс далёка ў цёмны лес...

* * *

Раніцаю над горадам весела развяваўся чырвоны сцяг. А па горадзе яшчэ весялейшы гарцаваў на белым кані маленькі партызан, шчаслівы, радасны, што дапамог адваяваць горад.

---

# ЯК ДБАЕШ, ТАК І МАЕШ

Ускапала Галя градку і пасадзіла макава зернятка. Пяць дзён чакала. Нічога не вырастала. „Бокам дождзжык лье, палівае, а на маё і не заглядае“.

Не даглядала, не палівала, само з'явілася: ні мак, ні маліна, а нейкая іншая расліна: адзін лісток, адзін ражок, дзве калючкі і шмат чаго яшчэ. Усе з яе дзіваваліся, доўга ўглядаліся і суседка Палашка, і суседка Малашка, і Малашчын Панас, і Панасаў Тарас. І яшчэ шмат народу ўсякага роду. Прышоў тым часам і аграном з калгасу: „Бач, якая вырасла крапіва“. Вось, Галька: як дбаеш, так і маеш.

А. ГЕРБУРТ



# Кастрычнік працягваецца

Гэта было ў Кастрычніцкую рэвалюцыю.

Двое чырвонагвардзейцаў стаялі на варце каля дзвярэй вялікага дома з калонамі.

Калі абвясцілі, што царскі палац узяты, што ўлада пераходзіць у рукі Советаў, адзін чырвонагвардзеец сказаў другому:

— Ну вось і рэвалюцыю зрабілі!

— Пачакай, браток, не спяшайся!—сказаў другі,—рэвалюцыя яшчэ не скончана. Вось убачыш, мы яшчэ паваюем...

І правільна: потым была грамадзянская вайна.

Потым была разруха.

Праз некалькі год яны зноў сустрэліся. Ім прышлося на адным заводзе рамантаваць і чысціць заржавелыя за час грамадзянскай вайны станкі.

На гэты раз другі сказаў першаму:

— Вось цяпер, дык рэвалюцыя ўжо скончана.

— Не, — сказаў першы, — я скажу табе тваімі-ж словамі: рэвалюцыя працягваецца... Трэба, каб з краіны адсталай мы сталі перадавой краінай у свеце, іначай нас ворагі задушаць. Рэвалюцыя працягваецца.





# Л А П А

Вясёлым і радасным прыбег Стась са школы. Ды як-жа не радавацца яму: ён ужо вучань другой групы польскай семігодкі ў калгасе „Орка“. Атрымаў новенькую чысценькую кніжку, дзе на вокладцы было адзначана, што гэта чытанка для другой групы. Летась Стась праз увесь час з зайздрасцю паглядаў на сваіх старэйшых таварышаў, якія чыталі такія кніжкі.

Пераступіўшы парог, Стась перш-на-перш пахваліўся матцы:

— Глядзі, мама, глядзі, якую кніжку мне далі. Я ўжо ўсё ў ёй магу чытаць. Дарма, што літэры тут драбнейшыя, чым у леташняй кніжцы. Тая была для першай групы, а гэта для другой,—з гонарам шчабятаў Стась.




Маці ўсьміхнулася і кажа:

— А можа ты толькі хвалішся: вось-жа пачытай, паглядзім, ці ўмееш.

У хату ўвайшоў і бацька Адам. Бацька вельмі цікавіцца сынавым вучэннем. Ён сам не так даўно ліквідаваў непісменнасць.

Стась хутка разгарнуў кніжку і пачаў чытаць першае, што трапілася.

„Л А П А

Гэта было даўно, да рэволюцыі. У адну пачатковую школу паступіў вучыцца Уладэк, сын паляка, што служыў парабкам у аднаго багатага фальваркоўца. Уладэк зусім дрэнна ведаў рускую мову, а школа была рускай. Польскіх школ тады не было. Цяжка прыходзілася Ўладэку вучыцца, як не стараўся ён. А настаўнік заместа дапамогі высмейваў Уладэка за мову, здзекваўся лаяў і ўжо з першых-жа дзён ставіў на каленкі.

Аднаго разу настаўнік выклікаў Уладэка і запытаў:

— Сколько будет, если от 13 отнять 8?

— Бэндзе пеньць, — скоранька адказаў Уладэк, забыўшыся на гэты момант, што ў школе няможна так гаварыць, як дома.

Настаўнік скоса глянуў на Уладэка і моцна сціснуў у правай руцэ „лапу“ — дубовую лінейку. Уладэк здагадаўся, у чым справа.

— Будзе пяць,— стараўся ён выправіць сваю памылку.

— Давай сюда руку!—закрычаў надзмуты настаўнік. — Вот влеплю тебе „пеньць“ горячих — будеш знать, как отвечать. Докуда я тебя, осла, буду ломать с твоим дурацким языком?!

Пасля пяці „гарачых“, Уладэк ад болю як мёртвы асунуўся пад скамейку.

Болей у школу ён не пайшоў".

Стась скончыў і здаволена зірнуў на бацькоў: ну, умею чытаць, ці не?—хацеў сказаць ён. Але бацька перапыніў яго:

— Дык гэта-ж усё чыстая праўда. Гэтак-жа было і са мною.

І бацька расказаў Стасю, як і ён некалі прабаваў быў вучыцца ў школе, але доўга не правучыўся. І яго ставіў настаўнік кожны дзень на каленкі ў вугал ды біў праклятай гэтай „лапай" за нячыстую мову. Багатыя наймалі для сваіх дзяцей настаўнікаў і так вучылі, а бедныя палякі вучыцца не маглі. Гэтак было і з дзецьмі другіх нярускіх нацыянальнасцяй у царскія часы.

— А нам,—пахваліўся Стась, — настаўнік казаў, што праз год ужо будзем вучыцца чытаць кніжкі і на рускай мове. Так ва ўсіх школах — і польскіх, і беларускіх, і яўрэйскіх, і...—тут Стась вінавата глянуў на бацьку: ён забыўся, якія яшчэ ёсць школы. А потым, крыху падумаўшы, дадаў:—і ва ўсіх, якіх раней пры цары не было. Іх вельмі многа, нам так настаўнік гаварыў, усіх цяжка і запомніць,—нібы ў апраўданне сказаў Стась.— Ва ўсіх гэтых школах вучацца на сваёй мове, а потым вывучаюць і рускую мову і яшчэ другія. Вось тады я любую кнігу змагу прачытаць — і польскую, і рускую.

— Так, усё гэта праўда, сынку, — сказаў бацька.—Шчаслівы ты. Ты вучышся ў вольнай совецкай школе, дзе за родную мову на каленкі ўжо ніхто не паставіць. І „каленкі" і „лапы", і здзекі з мовы польскай, беларускай, яўрэйскай і інш. нацыянальнасцяй загінулі разам з праклятымі царскімі парадкамі ў кастрычніку 1917 г.

# СВЯТА ПЕРАМОГ

Словы А. Якімовіча

Музыка Сакалоўскага




Песнямі гамоніць
Наш совецкі край,
Вуліцы сягоння
Чырванню гараць.

Зіхацяць плакаты
На усіх дамох —
Мы святкуем свята
Слаўных перамог.

Шмат яшчэ работы
Трэба нам канчаць—
З большаю ахвотай
Будзем працаваць!

Песнямі гамоніць
Наш совецкі край,
Вуліцы сягоння
Чырванню гараць.

# СУПОЛЬНІКІ

Апавяданне Ал. Марымава
Малюнкі А. Шахрая

Човен і рэчка. Хата на вадзе. Тут жывуць бацькі, браты, сёстры. І вада, цёплая вада заўсёды плюскоча поблізу. Хіба-ж вы адмовіліся-б жыць там улетку? Зразумелая рэч—пражыць лета на чоўне жадаў-бы кожны.

А от А-Пэй лаяўся.

Ён жыў на чоўне, што заўсёды быў прывязаны да вялікага каменя каля гарадскога моста, у ваколіцах горада на востраве Формоза.

Там заўсёды цёпла. Там апельсіны растуць па лясох. Там буйвалы адседжваюцца ў рэчках, ратуючыся ад спёкі. Там найсінейшае неба і дзіўнае мора. Хіба-ж вы не хацелі-б там пабыць?

А от А-Пэй лаяўся.

Ён лаяўся таму, што ведаў толькі работу ды свой човен.

Човен стаяў на зялёнай, гнілаватай, з жабурыннем вадзе. Брудная, дрэнна вымытая бялізна сушылася на чоўне, развяваючыся на мачце замест паруса.

А-Пэю 17 год, а ўжо шэсць год як працуе. Яго востраў называўся Тайван, пакуль не прышлі японцы і не назвалі яго па-свойму—Формозаю. Сям'я Апэява прышла



А-Пэй жыў на чоўне каля гарадскога моста.



А-Пэй моцна сціснуў аглоблі і пабег.

сюды, у партовы горад, з вёскі. Прышла і пасялілася на вадзе. Цяпер А-Пэй — рыкша. Ён возіць каляску-двухколку, нібы конь. Ад такой работы А-Пэй заўжды бывае змучаны, знясілены.

Японцаў А-Пэй ненавідзеў. Ён лічыў, што ўсе яны яго ворагі і праз іх ён пакутуе.

Аднаго разу да яго падышоў пажылы добра адзеты японец, сеў у каляску, назваў адрас куды везці і загадаў бегчы. А-Пэй моцна сціснуў аглоблі і пабег.

Ён званіў, зварочваючы на рог другой вуліцы. Ён глядзеў толькі наперад і ўжо чырвоны туман засцілаў яму вочы. Бегчы было далёка.

— Хутчэй!..—гукаў японец.

А бегчы трэба пад гору.

— Хутчэй!—загадваў пасажыр і штурхаў рыкшу ў спіну. А гара была крутая.

— Хутчэй!

У рыкшы ўжо не было сілы бегчы, і ён кінуўся вобземлю, цягнучы за сабою каляску, выкульваючы пасажыра.

Японец устаў і пашоў, не заплаціўшы грошай. І яшчэ аблаяў А-Пэя паганымі словамі.

А-Пэй не мог падняцца. Ён ля-

жаў у пылу, не выходзячы з аглабель каляскі.

І тады да яго падышоў незнаёмы чалавек.

— Што здарылася?

А-Пэй, убачыўшы перад сабою твар японца, паглядзеў на яго злосна і недаверліва.

— А табе што?



Японец-шахцёр дастаў часопіс.

— Як гэта?—адказаў японец.— І са мною так на рабоце можа здарыцца. Дык і да мяне каб ніхто не падышоў, не пацікавіўся?—І ён дадаў:—Маё прозвішча Накамура. Я на шахце працую. Жыву блізка.

Накамура пасадзіў А-Пэя на каляску і сам павёз.

Дома яны гутарылі да самага вечара. І Накамура расказаў рыкшу пра тое, як на іхняй шахце збіраюцца рабочыя, змораныя работай. Як яны — не менш, чым сам А-Пэй—ненавідзяць японцаў, толькі звычайна не ўсіх, а багацеяў, гаспадароў іхняй працы.

А-Пэй расказаў яму пра сваё жыццё, пра човен на гнілой вадзе. І японец-шахцёр, азірнуўшыся навакол, дастаў захаваную далёка часопісь. Ён прачытаў А-Пэю пра невядомую яму краіну, дзе няма рыкшаў, дзе шахцёры самі будуюць сваё жыццё і дзе рабочыя жывуць у светлых і чыстых будынках. Будынкі тыя былі на малюнках, і А-Пэй з цікавасцю глядзеў на іх, а думкі яго былі ўжо ў той краіне, дзе няма прыгону, дзе няма паноў. Думкі былі ў вольнай краіне—СССР.

# Квятуля



Апавяданне Сымона Баранавых
Малюнкі М. Беляніцкага

У Сяргея — вялікае гора. Ён сядзіць на парозе, на ганку, галаву рукамі ашчарэвіў, унурыў галаву, каб відаць не было вачэй, і аж захліпаецца ад горкіх слёз.

Маці з хаты вышла і таксама — вочы заплаканыя, чырвоныя.

— Не плач, Сяргейка,—маці кажа, а сама не можа стрымацца: усхліпвае і заціскае голас, каб не ўсхліпваць.

Сяргей галаву яшчэ ніжэй хіліць, а слёзы бобам, рагамі цякуць па шчоках, падаюць на гніляшы крывога, няроўнага ганка.

— А-а-х-х!..—вырываецца голас у Сяргея, а слоў ніякіх няма.

Маці не стаіць каля яго: бачыць яна, што ён не стрымаецца ад плачу, ды яшчэ большы жаль будзе ў сына ад яе слёз.

— Ну, ужо нічога не зробі-ыш, — кажа маці на Сяргея ды ідзе зноў у хату.

А Сяргей ніяк-ніяк не можа стрываць: гэта-ж такое гора, такое вялікае гора!

Сяргей вельмі любіў сваю Пралеску. Адна была яна ў бацькі. Ледзь-ледзь памятае ён: не было ў іх каровы. Прапала карова ці што і бацька з маткаю бедавалі:

— Як нажыць? Трэба каб як-небудзь пазычыць мо' грошай у каго?

— У Антося пазыч,—маці казала.—Мо' як на ногі станем—аддадзім.

— Не пазычыць... — траціў бацька надзею.—Ён-жа такі чалавек, калі за яго не сойдзе—не дасць.

— А ты дакляруй,—маці казала.—Я з сярпом выйду да яго, а ты з касою. Яму-ж трэба чужыя рукі. Папрасі—злітуецца.

І бацька пайшоў быў да кулака Антося. Расказаў Антосю, што ён хоча, каб як карову агараць.

— Дзеці малыя,—казаў яму,—самі, Антоні, ведаеце. Хачу купіць.

А той Антось дзіва-дзіўнае сказаў бацьку:

— У мяне ёсць цялё—пярэзімак. Яно худаватае, але калі даглядзець—будзе карова. Вазьмі!

Бацька не ведаў, як дзякаваць Антосю. Вельмі-ж рад быў. Дадому прывёў цялё-пярэзімка, а маці рукамі ўспляснула:

— Яно-ж здохне! Яно-ж усё ў каросце! Ён табе аддаў абы з рук збыць. Колькі-ж хоць сказаў ён?

— Нічога пакуль што,—сказаў бацька.— Памяркуемся, казаў. Паможаш што ў рабоце і рублёў дваццаць дасі...

І праз цэлае лета касіў і жаў бацька Антосю за тое карослівае цялё. Свае работы, бывала, не робіць, а Антось клікне—і ідзе.

Маці кляла сваё такое жыццё. Ды і сам бацька ведаў — пяцёра цялят гэткіх можна было-б купіць за сваю работу. А работа была за Антосеву ласку. Бо дваццаць рублеў агаралі сяк-так ды аддалі.



І бацька пайшоў быў да кулака Антося.

Але добра, што неяк выкажанела цялё. Маці і чамярыцу варыла ды мыла яго каросту, і траву свежую рвала: хаця-ж каб гадавалася!

Сяргей, як акрыяла цялушка — пасвіць вадзіў па ўзмежках. Яна і рахманая была — звыклася. Сяргей і імя даў цялушцы—Пралеска.

І вось цяпер — можа ўжо і дачакаліся-б таго малака—аж на табе: учора нешта зрабілася з Пралескай. Зайшоў раніцаю Сяргей у хлеў і аслупянеў — нават не ўскрыкнуў ад жаху.

— Што-ж гэта?!.—так і застыг голас, засеў каменем у яго горле.

Пралеска была нежывая. Бакі яе высока, як горы, узняліся і яна ляжала з пенай на мызе.

Як звар'яцелы выскачыў Сяргей з хлява. Не ведаў, дзе сабе знайсці месца. На ўвесь двор загаласіў горкімі слязмі.

І вось другі дзень пашоў, а ён не можа стрымацца ад слёз. Сціхне, сціхне на хвіліну, ды зноў...

І маці плача. А бацька Сяргееў—маўчыць. Нібы закамянела яго сэрца і вочы высахлі ад доўга-доўгага гэткага жыцця.

Але-ж гэта было... не, ня ўчора, а падаўна было гэта здарэнне з Сяргеем.

* * *

Час ішоў і нават подбегам бег час. І праз увесь гэты час без каровы былі Сяргеевы бацькі. Як прапала Пралеска—уся надзея прапала.

Бацька буркнуў неяк быў да маткі:

— Цяпер не паўстанеш на ногі.

А маці сказала:

— Мусіць, нам суджана, каб цэлы век свой не пакаштаваць малака.

Сяргей тады сваё думаў:—Нешта трэба рабіць... Няўжо гэтак і жыць давядзецца: без каровы, у недахватках...

А праз некаторы час калгас арганізаваўся ў вёсцы.

Як арганізаваўся калгас, уся вёска Скрыль, дзе жыве Сяргей з бацькамі, прачнулася, з плеч скінула векавечнае жабрачае гора. Усе межы скрылеўскія зрэзаў, зраўнаваў калгас. Трактар прыехаў на вялікае поле, араў яго наскрозь, сеяў яго і жаў. Бацька Сяргееў брыгадзірам у калгасе на полі: глядзіць, каб усё добра і ў пару было зроблена і каб ніхто пакрыўджаны не быў у дружнай калектыўнай рабоце.

А таго Антося, у якога карослівую цялушку купіў Сяргееў бацька, калгас выкарчаваў з вёскі — выслалі некуды далёка, далёка.

Сяргей пазірае на ўсю работу і вачам не дае веры:

— Вот яно як...—думае ён.—Вот

на якая работа калгасная... Яна-ж нам прынесла цэлае непачынанае жыццё!..

* * *

А на тым тыдні, неяк пасля работы, увечары, бацька прачытаў у газэце вось што: „Партыя большэвікоў пастанаўляе: кожны бескароўны калгаснік будзе мець карову“.

Сяргей аж ускрыкнуў ад радасці і на ўвесь голас:

— Дык гэта-ж апрача, што мы калгаснікі, у нас яшчэ і карова будзе! Гэта-ж і ў нас—вот яно як!—будзе карова!

А сягоння Сяргей прышоў з поля ад калгасных кароў (Сяргей-жа падпасычам — каровы пасе калгасныя), а бацька і прывёў ужо цялушку з соўгаса Чырвонае. Калгас купіў яе там і даў Сяргеевамý бацьку, каб той больш не быў без каровы.

Яна, такая беленькая з рыжымі кропелькамі. Сяргей, як убачыў, адразу да яе загаварыў:

— Мая ты му-му-му... Добрая ты мая. Я-ж цябе буду разам і пасвіць у калгасе.

І такая-ж радасць у Сяргея, такая радасць! От будзе пасвіць яе Сяргей, а яна і вырасце налета, і кароваю будзе. Маці пойдзе падоіць яе і малако будзе.

— Эх ты!.. не бо-ойся! Сяргей пагладзіць хацеў цялушку, але яна—такая трапятлівая... Ён падышоў да яе, а яна — чмыхнула і не хоча стаяць на адным месцы.

— Не бойся! — кажа Сяргей, — я-ж біць цябе не буду. Эх, ты!.. абрахманішся! Я цябе так прывучу, што ты ў мяне з рук будзеш браць яду.

Сяргей глядзіць на цялушку, цешыцца яе гладкаю шэрсцю, а потым;

— Якое-ж ёй будзе імя?

— Можа хай будзе—Квятуля?

— Няхай завецца—Квятуля! Няхай! Яна-ж уся ў адных кветках.





# Як Лыска спыніў трамвай

Апавяданне Юр. Шоўкапляса

Жыў Лыска на ўскраіне горада, дзе не было трамвая. Ён толькі чуў, што ёсць у людзей такая машына, на якой яны ездзяць. Але трамвая ніколі сам не бачыў. Аднак, хоць не бачыў, а часта хваліўся перад сваімі прыяцелямі:

— Падумаеш, трамвай! Ну і што з таго, што ён вялікі? А давядзецца мне ўбачыць, я з ім нешта зраблю.

— Што-ж ты з ім зробіш?— пыталі яго прыяцелі.

— А гэта я ўжо ведаю, што рабіць,—горда заяўляў Лыска.

І от давялося яму трамвай пабачыць.

Ніхто з сабак не кінуўся к трамваю. Толькі ўсе павярнуліся да свайго героя—што ён рабіць будзе?

А Лыска смела паскакаў к трамваю.

Трамвай ішоў не вельмі шпарка. Лыска ўміг дагнаў яго, ды што дагнаў, нават выперадзіў трохі. І так моцна забрахаў, што ўсе пасажыры на яго глянулі і здзівіліся: такі маленькі сабачка, а як сярдзіта на трамвай брэша.

І вагонаважаты на яго паглядзеў. Паглядзеў і засмяяўся: — які, кажа, дурны сабачка!

Ну, тут Лыска зусім з глузду з'ехаў.

„А-а,—падумаў ён,—вунь што вы ўсе пра мяне думаеце?.. Дык дакажу-ж я вам зараз, што я не дурань, а герой“.

І памчаўся, каб перабегчы рэйкі проста перад вагонам, проста пад носам у вагонаважатага... Памчаўся, але пад лапы сабе не

паглядзеў. І спаткнуўся. І кінуўся. Якраз на рэйку кінуўся.

Хацеў Лыска ўсхапіцца, але глянуў угору і самлеў ад страху. Трамвай ужо найшоў на яго, проста над ім цямнеў ніз вагона. Гэта быў такі страх для Лыскі, што ён нават не піснуў. Ён зразумеў, што яму прышоў канец...

Але трамвай не раздушыў яго. Вагонаважаты заўважыў, як кінуўся Лыска. Шкода стала яму гэтага дурненькага сабачкі. Ад таго, што вагон ішоў не вельмі шпарка, яго ўдалося спыніць адразу. Вагонаважаты вышаў з трамвая, нагнуўся і, згробшы Лыску за карак, выцягнуў з-пад трамвая.



— Эх ты, — ласкава гаварыў вагонаважаты, пагладжваючы яго па спіне.—Дурань маленькі—вось хто ты! Будзеш ведаць цяпер, як на трамвай брахаць?

Лыска аблізаў яму рукі.

Вагонаважаты пусціў Лыску на брук.

— Ну, бяжы.

А сам пашоў назад у трамвай. Трэба было ехаць далей.

Яшчэ не зусім апамятаўшыся пасля перапалоху, Лыска пашоў да сваіх. Іменна пашоў, а не пабег, бо лапы яго яшчэ і дагэтуль дрыжэлі.

А сабакі нерухома стаялі трохі воддаль, анямеўшы.

Убачыўшы сваіх прыяцеляў, Лыска адразу адчуў сябе зноў героем. Ён думаў, што ніхто нічога не бачыў.

Не паспеў ён падбегчы, як сабакі абкружылі яго.

— Ты жывы? — закрычалі ўсе ў адзін голас.

Лыска паглядзеў на іх так здзіўлена, нібы нічога не разумеў, пра што пытаюць яны ў яго.

Сабакі засаромеліся. Ну, сапраўды, як гэта можна так пытацца ў Лыскі, у прызнанага ўсімі героя? А пасля зноў населі на яго.

— Што ты натварыў? Чаму трамвай спыніўся?

— Трэба было глядзець, а не стаяць, развесіўшы вушы,—адказаў Лыска.

— Мы не маглі. Мы за цябе перапалохаліся.

— Перапалохаліся? За мяне?— зняважліва засмяяўся Лыска.— Ха-ха!.. Дрэнна-ж вы мяне ведаеце. А я проста ўчапіўся за трамваева кола, сціснуў яго зубамі і не пусціў далей.

Што здарылася пасля такіх Лыскавых слоў, і перадаць нельга... Сабакі пачалі падскакваць наваколо яго. Віталі Лыску, перакульваліся, танцавалі, гаўкалі, пішчалі, вылі, бурчалі. Так яны ўшаноўвалі свайго героя.

У момант Лыскава слава разляцелася па ўсім горадзе. Пра яго заслугу расказвалі адзін аднаму ўсе сабакі. Пра тое, як ён сваімі зубамі спыніў трамвай і пракусіў руку вагонаважатаму, дакладна было расказана ўсім. Нават Нерон, самы недаверлівы сабака, і той пачаў думаць, што Лыска — не звычайны забіяка, а сапраўды ў ім ёсць нешта геройскае.

Усе верылі, што Лыска найвялікшы ў сабачым свеце герой. А найбольш верыў гэтаму Лыска сам.



# ПЕСНЯ ЭЛЕКТРЫЧНЫХ ПРАВАДОЎ



Бяжыць на Поўнач,
Поўдзень,
Захад —
Скок ды скок —
Вясёлы ток,
Магутны тон.
І мы аб ім
Цяпер звінім —
Тугія правады,
Святло нясём,
Святло нясём
У вёскі,
Ў гарады.

**М. РУДЭРМАН.**

---

# Як Мішка абедаў

(ЖАРТ)

**Быў адзін хлапчына Мішка**
**Меў ён кепскую прывычку:**
**За сталом у час абеду**
**Разглядае сваю кніжку.**
**Ці малюе ён часамі**
**Розных мушак ды жывёлін.**
**Ну, а вынікі якія —**
**Вы убачыце тут самі.**







~~Цана 30 кап.~~ 10к

# Прыгоды гультая Міколы

Малюнкі М. Малевіча
Вершы А. Дзеркача





Разбудзіла матка
Гультая Міколу:
— Уставай, дзіцятка!
Не спазніся ў школу!




Але у Міколы
Шлях іншкшы, братка:
Прэ ён міма школы,
Ўзброена рагаткай.



Іншыя намеры
Ў галаве Міколы:
Бачыць ён на скверы
Двух сабак вясёлых.



Бачаць і сабакі:
Хлопец кінуў ранец...
Даўся ім у знакі
Гэты падшыванец!



Вось і камень гладкі
У руках малога...
Раптам—бац! з рагаткі
Ў галаву бульдога.



Цюцькі-ж—мой ты братка!
Ў наступ на Міколку!
Ён дарма рагаткай
Грозіць ім без толку.



Хлопец з перапуду
Лататы стралою.
Але дзе-ж ты? Руды
Брэша за спіною!



Кінуўшы рагатку,
Ён за плот рукамі...
А сабака хватка
За штаны зубамі!



Ой... дабег да школы...
Але—гляньце, дзеці!
Не пазнаць Міколы
Нізавошта ў свеце!

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“. 206130 11392 Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2082 5265 экз. Галоўлітбел № 1362.